


№ 4. ЖНІВЕНЬ 1937 г.

## ПРАВАСЛАЎНАЯ ВЕРА НА БЕЛАРУСІ.

Беларускі народ трымаецца праваслаўнае веры на працягу ўжо тысячы гадоў, ад самага пачатку свайго гістарычнага жыцьця.

Беларусы і тады жылі на гэтай самай зямлі, што і цяпер, толькі склад жыцьця і працы ў іх быў іншы.

Продкамі беларусаў былі славянскія плямёны крывічоў, дрыгвічаў і радзімічаў. Яны жылі тут з незапамятнага часу і веры былі паганскай, г. ё. кланяліся розным сілам прыроды, як: сонцу, ветру і інш.

Калі гэтыя плямёны, пад кіраўніцтвам старэйшых з роду, а потым князёў пачалі мала-па-малу выхадзіць на шлях арганізаванага жыцьця і дзяржаўнага будаўніцтва, дык, разам з пераходам да больш аселага жыцьця, да земляробства, разам з развіцьцём гандлёвых зносінаў, заснаваньнем гарадоў і г. д., адчулі і патрэбу духовае асьветы.

Асьвету-ж ў той час нясло адно толькі хрысьціянства, дык мала-па-малу яно і прыйшло на замену паганства.

Хрысьціянская вера йшла на Беларусь праз Кіеў з Праваслаўнага грэцкага і славянскага Усходу. Пашырэньню новае веры асабліва спрыяла тое, што вучэньне і багаслужэньне адбывалася ў жывой, блізкай і зразумелай славянскай мове, бо незадоўга перад тым (у дзевятым стагодзьдзі) сьвятыя бра-

ты Кірыл і Мяфод, названыя Асьвяціцелямі славянаў, зрабілі пераклад сьвятых кнігаў з грэцкае мовы на жывую славянскую мову. Гэтая мова праз вякі захавалася ў праваслаўнай царкве да сяньняшняга дня, і мы павінны берагчы яе і захаваць для нашых дзяцей.

Першымі вогнішчамі новае веры былі княжыя замкі, а першымі пасьлядоўнікамі — князі, іх дружына, баяры, купцы і рамесьнікі ў гарадох, а потым ужо сяляне па вёсках.

Як хутка йшло пашырэньне праваслаўнае веры, відаць з таго, што ўжо ў XI стагодзьдзі існуюць праваслаўныя (мураваныя) саборы і храмы ў найвялікшых беларускіх гарадох, як Полацак, Смаленск, Віцебск, а крыху пазьней у Горадні, Тураве, Пінску і інш.

Чым праваслаўная вера прыцягвала да сябе народ? Перадусім глыбінёю хрысьціянскага вучэньня, рэдкай малітвеннасьцю, прыгожасьцю багаслужэньня і сваімі моральнымі ўплывамі. Праваслаўная вера падымала агульны ровень жыцьця, паляпшала адносіны між людзьмі, нясла вышэйшую культуру і спрыяла пашырэньню асьветы. Усюды пры цэрквах, асабліва пры манастырох, ад самага іх заснаваньня, закладаюцца школы для дзяцей, перапісваюцца як духоўныя, так і сьвецкія кнігі (друкаваць на машынах тады яшчэ ня ўмелі), падгатаўляюцца царкоўныя прапаведнікі і г. д.

Духавенства, як вышэйшае, так і ніжэйшае, выбіралася з народу і мела вялізарны ўплыў на сямейныя, грамадзкія і дзяржаўныя справы. Народ верыў сваім пастырам і йшоў за імі.

Народ прыймаў шырокае ўчасьце ў жыцьці царквы, бо яна была яму блізкая і родная: багаслужэньне і навучаньне асноваў веры адбываліся ў роднай яму мове. Што народ рабіў для сваей Царквы? Закладаў і будаваў сваімі сіламі і сродкамі сьвятыя храмы, упрыгожваў іх, бараніў ад ворагаў, клапаціўся аб пашырэньні духовае асьветы, прыймаў удзел у выбарах і ўтрыманьні духавенства і г. д. Такое ўчасьце народу ў жыцьці Царквы ўжо ад XII веку пачынае прыймаць арганізаваную форму — зьяўляюцца царкоўныя брацтвы. Першае гістарычна ведамае царкоўнае брацтва заснавалася ў 1167 г. ў Полацку, пры саборы Сьв. Софіі. У склад царкоўных брацтв уваходзілі ўсе людзі гэтае мясцовасьці ці горада, пачынаючы ад князя і ягонае сям'і і канчаючы самымі беднымі і простымі людзьмі.

У гісторыі Беларусі царкоўныя брацтва спаўнялі вялікія нацыянальныя задачы, баронячы культурны воблік беларускага народу ад чужых уплываў.



## ВЫСОКІЯ ГОСЬЦІ Ў ПРАВАСЛАЎНЫХ.

Румынскі Кароль Карл II і Насьледнік Вялікі Ваявода Каралевіч Міхал падчас пабыту свайго ў Варшаве адведалі 27 чэрвеня Праваслаўны Сабор на Празе. Караля і Каралевича спаткаў у Саборы Мітрапаліт Дзяніс на чале чысьленага духавенства. Пасьля прывітальнае прамовы, Мітрапаліт адслужыў малебен. Кароль і Каралевіч прынялі багаслаўленьне Мітрапаліта.

Румынія — дзяржава праваслаўная і яе Кароль з Каралевічам таксама па веры праваслаўныя.

## НАРОДНЫЯ ЗВЫЧАІ І ПЕСЬНІ.

(Працяг — гл. № 3).

Напярэдадні Івана Купалы ў некаторых мясцох (Ваўкавышчына) дзяўчаты з купальскімі песьнямі абходзяць палі. Пры гэтым кладуць у лён—ліпу, у ячмень—клён, у жыта — асіну, у бульбу—рабіну. На дзьвярох хлявоў, на вокнах хатаў, на варотах затыкаюць крапівой і папарацьцю, каб адагнацца ад ведзьмаў.

У другіх мясцох у гэты дзень зьбіраюць зёлкі, т. зв. багаткі і варожаць, ці збудзецца загаданае ці не? Калі збудзец-

ца, то багатка расьцьвіце. Варожыць ня толькі моладзь, але і старыя.

У самы дзень Івана Купалы дзяўчаты мыюцца расой пшаніцы, уюць вянкі і пушчаюць іх на воду,—увечары паляць вогнішчы, скачуць праз агонь. Усё гэта робіцца з песьнямі, т. зв. купальскімі. Напрыклад:

Цяпер Купала, а заўтра Іван,
Ясна сонейка, заграй-жа нам.
Калі-ж ты будзеш нам іграці,
Мы будзем Купала ды скакаці.
Малая ночка, Купал-ночка,
Ня выспалася наша дзевачка.

Сукала шнуры шаўковыя,
Віла вяночкі пярловыя.
Ой, сяму-таму яна прадавала,
Свайму мілому так аддавала.
Малая ночка, Купал-ночка,
Ня выспалася наша дзевачка.

На Купалу кожная жанчына стараецца пайсьці ў ягады. Янаўскія ягады, як першыя, лічацца найлепшымі на лякарствы.

---

Народныя звычаі і зьвязаныя з імі песьні захаваліся ад нашае сівое, сівое мінуўшчыны. Многія з іх узьніклі яшчэ за часаў паганскіх, калі аб беларусах ці іх продках мала яшчэ хто і ведаў.

Таму трэба шанаваць нашыя песьні, нашыя звычаі, разумеецца, адкідаючы ў іх веру ў розных нячысьцікаў, як лясуноў, вадзянікоў, дамавікоў, ведзьмаў, чарцей і інш.

Ў нашыя дні многія з народных звычаяў, асабліва пад уплывам бязверра, што йдзе з Усходу ад бальшавікоў, пачынаюць забывацца і зьнікаць. Аб гэтым можна толькі пашкадаваць. Хай моладзь беларуская вучыцца адрозьніваць тое, што ёсьць здаровага і добрага ў народных звычаях—перадусім для захаваньня нашае гістарычнае сьвятыні—Веры Праваслаўнае, ад таго, что ёсьць перажыткам паганства або нясе моральную распусту і зьдзічэньне.



Гэй, Сымонкі, Зоські, Янкі!
Жыва, жыва на палянкі!
Разам Верачкі, Параскі! —
Вас атуліць сонца ласкай,
Наружовіць тварык, шчочкі,
Расцалуе сіні вочкі.
Вас навучыць, як кахаці
Беларусь—радзіму маці!

Міхась Васілёк.

## ПРА СТАРОГА ДЗЕДА І ШЧУПАКА.

Было неба то сіняе, то ружовае —
Там, дзе стаяла хатка рыбака...
І яшчэ было, як неба, возера шырокае, —
Шумела там заўсёды асака.

А ў глыбокай тоні жыў Шчупак сярэбранны,
З вострымі зубамі, хітры, як купец.
Паляваў ня раз за ім стары дзед з сеткамі,
Толькі дарма муцячы возерную медзь.

Часам ён засядзе за ракітай з вечара
І накрышыць зораў—залатых зярнят, —
Думае і цешыцца: не прыманку выплывеш,
Зораў не паласаваць—ня ўцерпіш, брат!..

Ды памалу дрэме дзед стары над возерам.
А ў глыбокай тоні слухае Шчупак,
Як над сонным берагам, ноччу заварожаны,
Ціха барадаты захрапе рыбак.

Выплыве тады ён серабрыста кружачы, —
Ціха так, каб хваляў сонных ня збудзіць
І з-пад сетак сініх, вуснамі сьцюдзёнымі
Пачынае зоры дзедавы лавіць.

Перш ён зловіць Сіцца, посьля і Мядзьведзіцу,
Вып'е сьцежку зорную вясьняных сноў,
Выцягнець на'т з сетак абаранку месяца...
І зноў, ціха кружачы, ападзе на дно.

І як толькі сонца ў баразде сівеючай
Азалоціць белы серабрысты сьнег,
І як толькі вецер раніцай за пазухай
Шчакаціць мяккімі пальцамі пачне,

Дзед прачнецца спуджаны, паглядзіць на возера —
Усе зоры выпіў—вылавіў Шчупак...
З гора замахае доўгімі рукамі,
Быццам папярхнуўшыся мукой вятрак.

Ды пачне гразіць ён, ў сеткі ўблытаўшыся,
Ідучы дарогаю праз сенажаць...
Дзесь гамоняць звонка кнігаўкі і чэпікі,
Разсыпае вецер жвірам песьню жаб.

І здаецца дзеду, што сьмяецца возера,
У сонцы расьцьвітаючы як чырвоны мак, —
Хіліцца, хахоча асака зялёная,
Што яго, старога, ашукаў Шчупак.

**Максім Танк.**

## ХТО Ў ПУШЧЫ? ХТО Ў ЛЕСЕ?

Народная казка (працяг—гл. № 3).

Увайшла бабіна дачка ў хатку і стала варыць кашку. Наварыла кашкі, выйшла на парог хаткі і пачала клікаць:

— Хто ў пушчы? Хто ў лесе? Ідзі да мяне начаваць, са мной ночку каратаць.

Ажно хтось адгукаецца грубым голасам:

— Я ў пушчы. Я ў лесе. Прыду да цябе начаваць, з табой ночку каратаць.

Чуе дзяўчына — нехта йдзе, цяжка сапе і стогне, — ідзе, аж пад ім гальлё ломіцца. Гэта быў мядзьведзь. Прыйшоў ён да парогу хаткі і кажа:

— Дзеўка – дзявіца, руса касіца! Перастаў ты мне лапу!

Яна пераставіла адну лапу, потым другую, а там і ўсе чатыры. Мядзьведзь увайшоў у хатку.

Селі вячэрaці. Дзяўчына наліла ў місачку кашкі, дала мядзьвядзю лыжку.

Ажно прыбягае мышка і кажа:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца! Дай мне кашкі.

А мядзьведзь і кажа:

— Забі гэту брыду!

Мачысіна дзяўчына як цэпнула лыжкаю па мышцы, так і забіла.

Павячэраўшы кажа мядзьведзь дзяўчынцы:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца! - Сьцялі мне пасьцель!

— А што-ж табе слаць?—пытаецца дзяўчына.

— Рад каменьняў, рад паленаў, а жалезную ступу пад галаву.

Дзяўчына паслала.

— Гасі агонь,—кажа мядзьведзь.

Дзяўчына загасіла.

— Давай, будзем гуляць, — кажа: ты стань пры сьцяне і звані ключамі, а я буду лавіць цябе.

Дзеўка стала пры сьцяне і звоніць, а мядзьведзь ба - бух! каменем ды ў яе. А яна крычыць: ой-ёй! А мядзьведзь і другі раз, ды ў яе зноў. Дзяўчына застагнала. А потым мядзьведзь ступаю як даў, так і забіў. Ня было мышкі — ня было каму парасьцерагчы.

Назаўтра мядзьведзь паглядзеў, аж дзяўчына няжывая ляжыць. Мядзьведзь мяса аб‘еў, а косьці ў мяшок сабраў і пакінуў у хатцы, а сам пайшоў у лес.

А мачыха чакала, чакала дачкі і не дачакаўшыся кажа дзеду:

— Запрагай каня і едзь паглядзець, можа яна такая багатая стала, што пара коняў не прыцягне.

Запрог дзед каня і паехаў. Пад'яжджае да хаткі, ажно дзьверы адчынены і нікога ня чутно. Дзед увайшоў у хатку, а там нічагусенькі няма, толькі завязаны мяшок ляжыць. Дзед паглядзеў, а там косьці. Дзед дагадаўся, што гэта мачысінае дачкі косьці, узяў мяшок, палажыў на воз і паехаў.

Пад'яжджае да хаты, а баба якраз пірагі на стол носіць— дачку спаткаць хоча. А сучка пад сталом:

— Цяў... Цяў! На дзедавай дачцы сукні шамраць, бабінай дачкі косьці браждждзаць!..

Мачыха са злосьці пірагом да сучцы па ножцы і перабіла адну ножку. А сучка скача на трох ды ўсё:

— Цяў... Цяў! На дзедавай дачцы сукні шамраць, а бабінай дачкі косьці браждждзаць!

Перабіла мачыха яшчэ адну нагу, потым другую і трэцюю, а сучка ўсё сваё:

— На дзедавай дачцы сукні шамраць, а бабінай дачкі косьці браждждзаць!

Узяў дзед мяшок з воза і кінуў у хату цераз парог. Мачыха як убачыла косьці, дык тут-жа і памерла.

А дзедава дачка пайшла замуж за багатага гаспадара. Яны жылі-пажывалі ды дабра нажывалі.

Канец.

## КАЛЫСКА.

Як паклікаў дзед Андрэй
Калыхацца ўсіх дзяцей.
Дзеці раптам наляцелі,
На калыску разам селі.

Учапіліся за дошку
Грышка, Мішка ды Цімошка.
Не папалі Хлор ды Клім—
Некуды прыткнуцца ім.





Хлор і Клім пайшлі самі гойдацца.



# ЖНІВА.

Угрэла сонца. Жней чародкі
Ідуць паважна, як лябёдкі,
У хустах лёгкіх, кофты белы,
Іх рукі дужа загарэлы.
Ідуць дзяўчаты, маладзіцы
І жарты строяць, як блазьніцы,
Ідуць шумлівы, гаварлівы,
Зьвініць іх голас, сьмех шчась-
лівы;

Прыйшлі на вузкія загоны,
Дзе каласочкі шумы — звоны
У таямнічы сьпеў зьлілі,
Упаўшы чолам да зямлі.
Гарачы дзень. На полі душна.
. . . . . . . . . . . . . . .
А жнейкі жнуць. У моры збожжа
Мільгае постаць іх прыгожа.
. . . . . . . Іх твар палае,





Чутна і песьня маладая, —
І поле раптам ажывае.
І мацяркі з дзяцьмі малымі
У лубкох — калысках за пля-
чымі —
Такая іх жаночая доля —
Марудна цягнуцца на поле.

Іх пражыць, сушыць смага тая,
Якую трудна ім здаволіць,
Якая толькі „піць! піць!“ моліць.
Сярпок скрыгоча прагавіта,
Жытцо згрызаючы сярдзіта,
Як-бы яму ўсё мала стравы —
Нядарма-ж вылез ён з-за лавы, —

Цяпер яго краса — часіна:
Шпарчэй, шпарчэй-жа гніся,
сьпіна!
І сьпіны гнуцца, бы ныраюць;
На струнах—кальвах пальцы
граюць.
Напрост кладуцца жмені жыта,
Растуць снапочкі самавіта,
Стаяць, бы лялечкі якія,
Глядзяць, як госьці дарагія.
Прыйдзі пад вечар ты на поле
І палюбуйся ім, саколе!
У якія роўныя шнурочкі
Цяпер пакладзены снапочкі!
І як прыгожа — слаўны бабкі!
Якія ладныя іх шапкі!
І хоць яны ўсе адзінакі,
Але і выраз і адзнакі
У кожнай бабкі асабісты,
А наагул — усе фарсісты.
Зірнеш — дальбог-жа, возьме
ўцеха
І ня стрымаешся ад сьмеху:
Яны так мілы, так прыветны,
Так самавіты, так фацэтны
І пазіраюць так прыхільна,
Прыгледзься толькі да іх пільна!
І многа-ж іх: ня зьмерыш кро-
кам
І не акінеш нават вокам;
стаяць радамі, зухаваты,
як на ўрачыстасьці салдаты.

З „Новае зямлі“ **Якуба Коласа.**

## ЯК ЛЁТАЕ БАЛЁН.

У № 2 „Снапка“ мы чыталі, чаму лётае самалёт. Але не самалёт быў першай лётнай машынай, на якой чалавек падняўся ў паветра.

Ведама кожнаму, што дзерава плавае на вадзе, а — прыкладам — камень тане. Тлумачыцца гэта тым, што дзерава „лягчэйшае за ваду“, а камень, жалеза і г. д. — „цяжэйшыя“, гэта значыць, што калі возьмем камень велічынёй з вядро, то ён будзе важыць значна больш, як вядро з вадой, калі-ж возьмем такой самай велічыні кавалак дзерава, то ён будзе важыць значна менш.

Даўно ўжо было ведама, што паветра мае сваю вагу — праўда — вельмі малую. Літр паветра важыць каля $1\,^1/_3$ грама, а літр вады—1 кілё, гэта значыць, у 700 разоў больш. З гэтага відаць, што прадмет лягчэйшы за паветра, літр якога (прадмету) важыць менш як $1\,^1/_3$ грама, можа плаваць у паветры, як дзерава ў вадзе.

Дым ідзе ўгару, а значыцца ён лягчэйшы за паветра. Так разважалі французы браты Монгольф'е і збудавалі ў 1783 годзе першы балён. Гэта быў лёгкі папяровы пузыр з дзірою ўнізе. Балён завешвалі над вогнішчам; напоўніўшыся дымам, ён ляцеў угару і мог нават падняць з сабой чалавека. Але такі напоўнены дымам балён, або, як яго называлі, „монгольф'ер“, ня мог доўга трымацца ў паветры, бо дым лягчэйшы за паветра

толькі датуль, пакуль ён гарачы. Дым у балёне хутка замянілі лёгкім газам — вадародам. Каб падняць угару адно кілё, патрэбна 1200 літраў вадароду; зразумела, які вялікі павінен быць балён, што паднімае людзей, і кошык, у якім яны сядзяць! Балёны, на якіх можа падняцца чалавек, маюць ад 300 - 400 да некалькіх тысяч кубічных мэтраў абыйма.

Узьбіўшыся ў паветра на балёне, чалавек, аднак, не пачуўся задаволеным, ён ня мог ляцець, куды хацеў; ён мог толькі паднімацца вышэй, выкідаючы з кошыка ўзятыя з зямлі ў мяшкі з пяском, або спушчацца ўніз, адчыняючы кляпан (дзіру) у павалочцы балёну і паволі выпушчаючы праз яго вадарод. Балён ляцеў туды, куды гнаў яго вецер і ня мог зьмяніць ані хуткасьці, а ні кірунку свайго лёту. Пачаліся спробы збудаваць балён, якім можна было-б кіраваць і ляцець супроць ветру. Што далі гэныя спробы — пагаворым у наступным нумары.

## ПЕРАСЬЦЯРОГА.

(Жарт).

Упёрся хлопец — просіць матку
пусьціць з хлапцамі пакупацца.
Нарэшце матка ня ўцярпела
і сіл ня стала з ім спрачацца.
„Ідзі ты, — кажа, — прычапіўся,
знаць, гуза галава шукае...
Ідзі, гуляй, але пільнуйся!" —
Матуля зноў асьцярагае:
„ня лезь у рэчку, бо глыбока,
абходзь дзе-небудзь па сухому,
бо як утопішся, то — помні! —
Лепш ня прыходзь тады да дому".

Альбэрт Паўловіч.

## ПАН І САБАКА.

(Байка).

Брахаў цюцька ўночы і пана сьцярог,
Назаўтра набілі — пан спаці ня мог.
Спаў цюцька ўночы — хтось пана абкраў...
Зноў цюцьку набілі, бо ён не брахаў.

Я. Быліна.

# У ПУСТЫНІ.

Зьехалі на пласкаватае ўзвышша, на якім вецер паморшчыў пясок і адкуль на абодва бакі цягнууся вялізарны прастор пустыні. На ўсходзе лёгкія хмаркі захварбаваліся золатам. Стрэліў адзін прамень, пасьля другі, — і сонца, як гэта заўсёды бывае ў паўднёвых краінах, дзе амаль ня бывае зьмярканьня і досьвіткаў, ня ўзыйшло, а выбухнула з-за хмараў, як стоўп агню, ясным сьвятлом заліло кругазор. Павесялела неба, павесялела зямля, і нязьмерныя пясчаныя прасторы адкрыліся перад чалавечымі вачыма.

Да паўдня пёрліся амаль без супачынку, але, калі сонца выкацілася высока на неба і пачало моцна прыпякаць, дык вярблюды, якія наагул мала пацеюць, абліліся потам і пачалі бегчы значна павальней. Караван ізноў абкружылі скалы. Распадзіны гораў, якія ў дождж замяняюцца ў карыты ручаёў, г. зв. „кгоры“, пачалі пападацца штораз часьцей. Бэдуіны ўрэшце затрымаліся ў аднэй з іх. зусім схаванай сярод скалаў. Але як толькі зьлезлі з вярблюдоў, дык паднялі крык і кінуліся ўперад, нагінаючыся і кідаючы каменьнямі. Спасярод сухіх карчоў на дне „кгору“ высунуўся вялікі вуж і круцячыся са шпаркасьцю маланкі, паміж грудкамі скалаў, уцякаў да сваей нары. Яго даганялі, як маглі. Але дзеля няроўнасьці грунту, трудна было папасьці ў яго каменем ці прабіць нажом.



Каля гадзіны другой папаўдні сьпякота, ня гледзячы на зімовую пару, была вельмі вялікая. На небе ня было ніводнае хмаркі, але кругазор пашарэў. Над караванам кружыла некалькі груганоў, шырока расьцягнутыя крыльлі якіх кідалі на шэрыя пяскі чорныя рухомыя цені. У распаленым паветры чуць было як-бы нейкі чад. Вярблюды бягучы пачалі нейк дзіўна харкаць. Адзін з бэдуінаў сказаў:

— Мусіць будзе нешта нядобрае. Злыя духі збудзілі вецер, які спаў на захадзе пустыні, а той устаў з пяску і жанецца да нас.

Арабы крычалі на вярблюдоў, пакуль не перасохла ім у горле, пасьля змоўклі, і настала сьмяротная ціша, якую перарывала стагнаньне жывёлы. Два невялікія пясчаныя ліскі, з вялізарнымі вушамі, праляцелі каля каравану, уцякаючы ў процілежны бок.

(працяг будзе)

Пераклад з твору Гэнрыха Сенкевіча „W pustyni i w puszczy“.

# АБІСЫНІЯ.

(Працяг—гл. №№ 2-3).

— Усю Абісынію, — чытае Язэп Бычок, — можна падзяліць як-бы на тры паверхі, якія падымаюцца адзін над адным, — чым далей ад мора, тым вышэй.

І. Найвышэйшы на поўначы Абісыніі, называецца Дэга, што значыць «халодная краіна». Хаця тут ёсьць і пустыні, і лясы, і стэпы, але над усім пераважаюць горы, надзвычай стромкія, з глыбокімі ярамі ці цясьнінамі. Над роўнем мора горы Дэга падымаюцца на 3-4 тысячы мэтраў і болей, мясцамі дасягаючы граніцы вечнага сьнегу. На гэтых горах, ад таючага сьнегу, бяруць свой пачатак многія рэкі, між імі — Ніл, найвялікшая рака Афрыкі. Людзей у горах і стэпах Дэга



жыве мала. Яны займаюцца гадоўляй жывёлы, стала вандруюць са сваімі стадамі і ня маюць аселасьці.

ІІ. Сярэдні паверх называецца Вуана-Дэга, што значыць «вінная краіна». Тут ёсьць ужо шмат ураджайнае зямлі, і на вялікіх прасторах цягнуцца найбагацейшыя ў сьвеце стэпы, якія называюцца саванамі. Гэтая частка Абісыніі найбольш заселеная і культурная. Тут і найвялікшыя абісынскія плянтацыі і гарады. Насельніцтва займаецца пераважна зямляробствам. Многія наймаюцца за нашэльнікаў тавараў і паганятых караванаў.

ІІІ. Паласа, якая найбліжэй падыходзіць да мора і ёсьць самая нізкая па свайму палажэньню, называецца Кола. За вы-

няткам некаторых мясцовасьцяў, гэтая краіна мае вельмі нездаровы, бо вільготны і страшэнна гарачы клімат. Кола пераважна пакрыта густымі першабытнымі лясамі, у якіх цэлы дзень — пры найвялікшай вышыні сонцастаяньня — амаль зусім цёмна ад надзвычайна буйнай расьліннасьці, пануе ціша і ўсюды навалены горы гнілога дрэва. Сярод гэтых лясоў, на невялікіх узвышшах, жывуць дзікія плямёны нэграў або мурынаў, якія вядуць між сабою вечную вайну. Паляваньне на дзікіх зьвяроў ёсьць пераважаючым сродкам іхняга жыцьця.

— Гэтак — тлумачыць «прафэсар» Бычок — кожная краіна адрозьніваецца ад другой сваей прыродай, кліматам, расьліннасьцю, жывёламі і заняткамі жыхароў. А далей у кніжцы пішацца асобна пра Дэга, Вузна-Дэга і Кола. Зараз чытаць? — пытаецца Бычок у сваіх калегаў.

— Зараз, зараз! — пракрычалі ўсе дружна ўвадзін голас. — Гэта надта цікава.

— У нашай Беларусі зусім адменнае жыцьцё і прырода, — заўважыў Грыцук.

— Але, больш асаблівасьцяў, чым падобнасьці, — сказаў Бычок і пачаў чытаць пра Дэга.

## Д Э Г А.

— У прыродзе Дэга ўсё дзіка, першабытна, стыхійна. Усюды горы, горы, сярод якіх прастор толькі ветру буйнаму ды арлу магутнаму. Там рэдка дзе ступала нага чалавека. А цясьніны між гарамі? Гэта — праўдзівыя бяздоньні, куды нават страшна і вокам зірнуць. Бо ёсьць прорвы глыбінёй да 1500 мэтраў, у якія ніколі прамень сонца не дасягае. Такія-ж дзікія і няпрыступныя і пустыні, і лясы, і стэпы Дэга. Небясьпека, сьмерць можа спаткаць тут чалавека на кожным кроку — ці то ад дзікіх зьвяроў, зьмеяў і кузурак, ці то ад дзікіх людзёў (ёсьць цэлая краіна разбойнікаў, якія называюцца «гурагі»), ці то ад магутнае і грознае стыхіі — маланкі, навальніцы, дажджу: гэта ўсё мераецца там не нашымі меркамі, і куды страшней, чым у нас.

— З аднаго боку дажджы, — перабівае Дрозд, — а з другога недахоп вады. Нам апавядаў вучыцель, што людзі іншы раз едуць 4 - 5 дзён па горах, каб зрабіць запас вады на месяц.

— А як - жа абыходзіліся без вады Італьянцы, калі йшлі заваяваць Абісынію? — спытаўся хтось з хлапцоў. — Салдаты, — чуў я, — прападалі без вады?

— Не прападалі, бо ваду падвозілі стала на аэраплянах. І ня толькі ваду, але і ўсё. У Абісыніі няма дарог. Войску

трудна было йсьці па горах з вазамі, гарматамі, кулямётамі і правіантам. Вось на аэраплянах усё і падвозілася. Мясцамі італьянцы самі будавалі дарогі, тады па іх усё падвозілі самаходы.

— Абісынія—чытае далей Бычок — вельмі багатая на скаціну, якая сваім ростам, мясам і скурамі ёсьць ня горшая за скаціну ў Эўропе. У стэпах Дэга і па схілах гораў, у сухую і цёплую пагоду, пасецца многа стадаў авечак, козаў, кароў і быкоў з вельмі даўгімі рагамі. Сена для скаціны там не прызапашваюць—скаціна круглы год на падножным карму: зьесьць траву ў вадным мейсцы - пераганяюць на другое. Ня будуюць там і хлявоў. Дый і для сябе людзі ня будуюць хатаў, бо жывуць у будах, якія пераносяцца.

— А якія там лясы ці дрэвы?—спытаўся Рудак.

— Вялізарных пушчаў няма ў гэтай часьці Абісыніі, а лясы ў нагор'ях хаця і ёсьць, але мала падобныя да эўрапэйскіх. Нашыя вераск, лапух, ялавец там аграмадныя дрэвы, якія надаюцца на будынкі, масты. Кактусы, якія ў нас растуць толькі ў вазонах, там вырастаюць у цэлыя дрэвы. Ялаўцы дасягаюць вышыні 30-40 мэтраў.

— У нашай Белавескай пушчы некаторыя сосны дасягаюць такой вышыні, — яны йдуць заграніцу на машты для караблёў, —дадаў Мароз Пётра.

— У некаторых мясцох ніжэй гораў, з больш цёплым клíматам, асабліва сярод саванаў Вуана-Дэга,— прадаўжае наш «прафэсар»,—растуць паадзіночцы ці групамі асаблівыя, ужо чыста афрыканскія дрэвы, вельмі каштоўныя, як сікаморы і смакоўніцы (фігі), акацыі, эўкаліпты, мірты, аліўкавае дрэва, па берагох рэкаў бамбукі, наканец, баобаб. Баобаб самае вялікае дрэва мо'на цэлым сьвеце; жыве некалькі тысяч гадоў.

— Вучыцель расказваў нам, - перабіў Дрозд,— што камель баобаба мае ў абхваце 40 мэтраў; трэба якіх 15 людзей, каб узяўшыся за рукі абхапіць яго.

— А я, —кажа Тамковіч, бачыў малюнак: пад пнём аднаго старога паваленага бурай баобаба схаваўся ад дажджу цэлы статак коз і бараноў, з сваімі пастухамі.

—А калі «пан прафэсар» ,—сьмяючыся спытаўся Рудак,— прачытае нам аб зьвярох Абісыніі? Гэта-ж самае цікаўнае.

— Наш настаўнік казаў - заўважвае Грыцук,—што Абісынія—найбагацейшы ў сьвеце прыродны зьвярынец, у якім сабраныя амаль усе зьвяры гарачых краінаў: леў, слонь, пантэра, антылёпа, малпы і шмат іншых.

— Будзе пара і на зьвярынец, — сказаў Бычок. Але па-

вучонаму трэба сказаць: зоолёгічны сад, а не зьвярынец. А цяпер усе—марш па хатах!

— Зоолёгічны сад!.. зоолёгічны сад! — паўтараючы адзін за адным, кінуліся «школьнікі-шкоднікі» з гораў Дэга ў сваю такую-ж глухую, закінутую між небам і зямлёй Рудаўку.

(працяг будзе)

## УСЯЧЫНА.

**Школьныя самалёты, цягнікі і параходы.** У некаторых амэрыканскіх школах замест таго, каб вывучаць географію ў клясе па кніжках, картах і малюнках, дзеці вывучаюць яе жывым нагляданьнем прыроды з адумысных школьных самалётаў, цягнікоў і параходаў. З вышыні птушынага лёту дзеці аглядаюць паверхню зямлі—горы, даліны, лясы, рэкі, вазёры і вадаспады, параўноўваюць з географічнымі картамі, зарысоўваюць і г. д. Такім-жа парадкам знаёмяцца дзеці з гарадамі, фабрыкамі і рознымі тэхнічнымі будоўлямі, куды давозяць іх параходы і цягнікі. Пасьля такіх вандровак дзеці парадкуюць у клясе свае ўражаньні, запісваюць, малююць — усё пад кіраўніцтвам настаўнікаў. Карысьць ад такога навучаньня—найвялікшая.

Так у Амэрыцы. Будзе калісь так і у нас.

**Глыбіня акеану на паўночным полюсе ці канцавосьсі** — 4290 мэтраў. На дне ляжыць мул цёмна шэра-зялёнага колеру. Апусканьне тросса (прылады да мераньня глыбіні) трывала 2 гадз. 40 мін. Назад падыймалі ў прыцягу 6 гадз.

Вымерыць тэмпэратуру вады на дне мора не ўдалося — тэрмомэтры ня вытрымалі цяжару верхніх пластаў вады і палопаліся.



**Кошка корміць пацукоў і вавёрак.** У Маскоўскім садзе для зьвяроў кошка выкарміла малых пацукоў. Яны вырасьлі і вельмі прыязна і згодна жылі з кошкаю аж да самай сваей сьмерці (пацучы век—два гады).

Цяпер тая самая кошка корміць знойдзеных у лесе яшчэ сьляпых і голенькіх вавёрачак. Яна іх прыняла, часта корміць, вылізвае і вельмі непакоіцца, калі хто бярэ іх у рукі.

Нядаўна дадалі ёй яшчэ маленькае шчанё енота (зьвяры на Далёкім Усходзе), якога празвалі «Вінцік». І цяпер пануе добрае сужыцьцё між кошкаю, вавёрачкамі і «Винцікам».

## ВУЧЭНЬНЕ.

Вучыся, дзіцятка! Вучыцца патрэбна!
Шукай сонка, праўды, хай розум ня сьпіць!
Бо што ты пазнаешь, у вадзе не затоне,
Віхор не разьвее, у вагні не згарыць.

## Загадкі.

Па грэцку гаворыць, на лапатках ходзіць, ражком есьць.
Дзень і ноч сакоча, а есьці ня хоча.

## Прыказкі.

Ні думаў, ні гадаў, а так Бог даў.
На адным мейсцы і камень мохам абрасьце. — Млын меле — мука будзе, язык меле — бяда будзе.

## Жарты.

— Ой, пагана-ж ты пяеш, хлапчына!
— Ага, пагана. Але затое доўга.

II.

— Колькі табе гадкоў, Яначка?
— Восем. Было-б ужо дзевяць, але-ж я адзін год хворы праляжаў.

**„СНАПОК“ — царкоўны і культурна-асьветны журнал для дзяцей, з ілюстрацыямі.**

**на год 1 зл., на ½ года 50 гр. з перасылкай.**

**Цана асобнага нумару 10 гр. з перасылкай.**

Падпіска прыймаецца ў рэдакцыі „Слова“:
**Warszawa 4, Paryska 27.**

У справах рэдакцыйнага характару зварочвацца да гр. Сяргея Паўловіча па адрасу: **Вільня, вул. Папоўская, д. 9, кв. 4.** На адказ далучаць значкі паштовыя. На адрас гр. Сяргея Паўловіча прысылаць усе карэспадэнцыі і іншыя матар'ялы.

Усе нумары „СНАПКА“ зьбірайце: праз год, пераплёўшы, будзеце мець цэлую кніжачку.

Warszawa. Drukarnia Synodalna. Paryska 27.